№ 36601


# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу Беларуск. Сялянска-Работніцкай Грамады

№ 7 | Вільня, Нядзеля, 14-га сакавіка 1926 г. | № 7


## Прамова

**дэпутата Бр. Тарашкевіча, (Сялянска-Работн. Грамады), сказаная на паседжаньні Сойму 12. II. 26 г. пры першым чытаньні Уставу аб натуральнай павіннасьці пры напраўцы дарог і мастоў сялянамі.**

Паны! Устаў гэты, здавалася-б, вельмі нявінны, але фактычна ўскладае на сялянства прыгонную павіннасьць у адносінах да дзяржавы.

І гэта затым, што ўвесь цяжар гэтага ўставу ляжыць перад усім на селяніне. Як папярэдні прамоўца, п. Галавач, выясьніў і ілюстраваў вельмі добрымі прыкладамі з жыцьця — пераважна „крэсавага“,—абшарніцтва, маючае найболей багацтваў і зямлі, гэтай павіннасьці ў адносінах да дзяржавы не адбывае, але ўвесь цяжар яе падае на сялянства. І што ж гэты селянін мусіць даць дзяржаве, як падатак, з свае працы? А вось што: мусіць будаваць тэлефоны, вазіць тэлефонныя слупы, вазіць дзерава на масты, будаваць дарогі, перавозіць фураж, перавозіць войска, вазіць ураdoўцаў і вучыцялёў, якіх накідае яму дзяржава дзеля апалячываньня.

Мушу зьвярнуць увагу яшчэ на адзін бок гэтага ўставу, а іменна на тое, што асаблівы цяжар яе падзе на г. зв. „Крэсы“. Нідзе гэтак не зруйнаваны масты і дарогі, як на „Крэсах“. Будуецца цэлы рад дарог і мастоў, патрэбных перад усім для войска і абароны граніц,—і вось „крэсавы“ селянін мусіць нясьці цяжары, якія ў грувьце рэчы зьяўляюцца цяжарамі агульна дзяржаўнымі. І, значыць,—для „Крэсаў“ гэты ўстаў зьяўляецца падвойнай крыўдай для селяніна—іменна для „крэсавага“ селяніна.

Ясна, што на гэтакі ўстаў, які змушае селяніна да непамерных цяжараў, які змушае яго вазіць дзерава, дзе будзе рваць упраж, ламаць калёсы і вазы, будзе псуць свае коні, як гэта сёньня ў нас робіцца,—згадзіцца мы, як прадстаўнікі сялянства,—ня можам.

Мусім тут-жа падчыркнуць яшчэ адну вельмі цікавую асаблівасьць. А іменна, тое што ўстаў гэты ў апошняй форме зрэдагаваны і падпісаны соцыялістычным міністрам з П. П. С. (Польская Партыя Сацыялістычная),—п. Морачэвскім, — міністрам тае партыі, якая на нашых „Крэсах“ выступае гэтак дэмагагічна і гэтак „папрыяцельску“ фліртуе з сялянамі — пераважна на Палесьсі. З гэтага часу селянін будзе ведаць, як міністар з П. П. С. **ня думае** аб дабры гэтага селяніна і аб абароне яго інтарэсаў.

Будзем галасаваць проці гэтага ўставу, каб адкінуць яго ў першым чытаньні.

42000

---

## Інтэрпэляцыя № 21

**паслоў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Рэлігійных Вызнаньяў і Публічнае Асьветы і да п. Міністра Унатраных Спраў у справе сталага перасьледаваньня Беларускага Школьніцтва школьнай і адміністрацыйнай уладай.**

Беларускія землі ў працягу гадоў 1915, 1916, 1917, 1918, 1919, 1920 і 1921 былі арэнаю гістарычных падзеяў усяго сьвету, якія зруйнавалі гэты край, як эканамічна, так і культурна: маемасьць вывозілі на ўсход ці захад, а што не магло быць вывезена, нішчылі і палілі на месьце; лічыць, што ўсе культурныя сілы былі пакліканы ў войска, або вывезены пад націскам праходзячай арміі. Пасьля заключэньня міру ў Берасьці высланыя сяляне пачалі варочацца на свае зьніштожаныя гаспадаркі; холад, нэндза і голад запанавалі сярод людносьці, якая разьмясьцілася ў акопах, бліндажах і зьмлянках, змагаючыся за самое істнаваньне. Беларуская людносьць распачала адчыняць свае родныя беларускія школы, перамагаючы ўсе тыя перашкоды, якія рабілі ім або застаўшыяся расейцы або польскаеграмадзянства або нарэшце—акупацыйныя ўлады, якія ўвесь час заступалі адна другую.

Пачалі адчыняцца школы не паасобку, але дзесяткамі і сотнямі. За часоў нямецкай акупацы і Сярэдняе Літвы на тэрыторыі беларускіх зямель паўстала да 400 беларускіх пачатковых школ. У 1919 годзе, каб прыгатовіць вучыцялёў, былі адчынены ў Сьвіслачы і ў Вільні курсы для беларускіх вучыцялёў; — а пасьля сканчэньня гэтых курсаў вучыцялі пачалі сеяць навуку пасярод дзяцей і моладзі беларускай.

Гэтак хутка наладжанае беларускае школьніцтва расшыралася аж да заключэньня Рыскага Трактату. Ад таго часу, ня гледзячы на культурна-нацыянальныя гарантыі, даныя нацыянальным меншасьцям Рыскім і Вэрсальскім Трактатамі, а таксама у §§ 109 і 110 Уставы з дня 17 марца 1921 г. аб канстытуцыі Рэчыпаспалітай Польскай, якія дослоўна кажуць (§ 109), што „кожны грамадзянін мае права захаваньня свае нацыянальнасьці, шанаваньня і разьвіцьця свае мовы і нацыянальных асаблівасьцяў. Асобныя Уставы забясьпечаць меншасьцям у Польскай Дзяржаве поўнае і свабоднае разьвіцьцё іх нацыянальных асаблівасьцяў пры помачы аўтанамічных зьвязкаў меншасьцяў публічна-праўнага характару ў граніцах зьвязкаў агульнага самаўраду. Дзяржава будзе мець у адносінах да іх дзейнасьці права кантролю і папаўненьня — калі будзе трэба — іх фінансавых срэдстваў“ і (§ 110)—„польскія грамадзяне, належачыя да нацыянальных, рэлігійных або языковых, меншасьцяў, маюць роўнае права з іншымі грамадзянамі засноўваньня, надзору і заведваньня сваім уласным коштам дабрадзейных, рэлігійных і грамадзкіх таварыстваў, школ і іншых узагадоўваючых інстытуцыяў і карыстаньня ў іх свабодна свае мовы і выконваньня абрадаў свае рэлігіі“ — Але Польская ўлада, чуючы сябе гаспадаром нашай зямлі, да апошніх часоў ня толькі не дае магчымасьці разьвівацца беларускаму школьніцтву, але дашчэнтна руйнуе і нішчыць тое, што яшчэ засталося. Школьныя інспэктары стала перарабляюць беларускія школы на польскія або зусім іх зачыняюць.

Яшчэ да прынятага Соймам уставу з дня 31. 7. 1924 г. сяляне складалі сотні пастаноў сельскіх сходаў і просьбаў да школьных інспэктароў аб адчыненьні беларускіх школ, але ані водная з гэтых пробаў ня была споўнена, — наадварот — руйнаваліся апошнія беларускія школы.

Пасьля выданьня ўставу з дня 31 ліпня 1924 г. ў справе школьніцтва, беларуская людносьць зноў пачала дамагацца роднай школы і зноў пачалі пісаць сотні пастаноў сельскіх сходаў аб адчыненьні беларускіх школ, або замене істнуючых польскіх школ беларускімі. Ня гледзячы на перашкоды з боку войтаў, якія адмаўляліся пацьверджваньня падпісаў на памянутых пастановах сходаў, ня гледзячы на тэрор з боку паліцыі, як яўнай, так і тайнай і польскіх вучыцялёў, — зноў пацягнуліся да школьных інспэктараў дэлэгацыі з просьбамі аб адчыненьні беларускіх школ, але і на гэтыя сотні пастановаў сельскіх сходаў і просьбаў школьныя ўлады ані воднай беларускай школы не адчынілі, пакліваючыся на тое, што няма яшчэ адпаведных абавязковых распараджэньняў і проці волі людносьці адчынялі польскія школы з вучэньнем у некаторых выпадках і беларускай мовы, як прадмету (—каб адчапіліся). Ілюстрацыяй гэтага можа служыць папера Пружанскага школьнага інспэктара з дня 10/II 24 г. № 1666 да паўнамоцніка в. Бакуны і папера Нясьвіскага школьнага інспэктара з дня 1/X 24 г. № 3602 да жыхароў в. Грускава, Сноўскае гм., з якіх відаць, што ў беларускіх школах, якіх просяць, толькі Закон Божы можна вучыць пабеларуску, або парасейску, або беларуская мова можа быць, але толькі як прадмет. У Беларускай Школьнай Радзе ў Вільні знаходзіцца 102 пастановы сельскіх сходаў на 5555 дзяцей, бяручы ў сярэднім 55 вучняў у адну школу, а колькі-ж гэтакіх пастаноў ня былі зарэгістраваны.

Ня могучы дачакацца ўрадовых беларускіх школ, увосені 1924 г. і ў пачатку 1925 г. беларускія сяляне пачалі адчыняць побач з польскімі прыватныя беларускія школы. На просьбу паўнамоцнікаў і беларускіх Таварыстваў Школьных ў Вільні і ў Радашкавічах аб залегалізаваньні прыватных беларускіх школ, школьныя ўлады да гэтай пары ніякога адказу ня далі. Такім чынам гэтыя школы функцыянавалі напаўафіцыяльна, а большая частка зусім тайна. Дзеці з польскіх школ немаль усе перайшлі ў прыватныя беларускія школы. Заўважыўшы гэтую небясьпеку і канец для польскай школы, школьныя інспэктары не легалізуючы і не зачыняючы прыватных беларускіх школ, ня ведалі, што маюць рабіць і пачалі накладаць на бацькоў грашавыя кары за тое, што іх дзеці ня ходзяць у польскія школы. Такім чынам вялікія кары былі наложаны на жыхароў в. Бакуны і іншых у Пружанскім пав., у в. Угрын, Лядзіны, Хінявічы, Савічы, Пруды і іншых у Слонімскім пав., таксама было і ў іншых паветах. Ня гледзячы на гэтыя кары і перасьледаваньні, прыватныя беларускія школы моцна трымаліся і навет адчыняліся новыя. Тады адміністрацыя зрабіла найвастрэйшы крок проці беларускае школы, зачыніла 67 прыватных беларускіх школ, пакарала грашыма вучыцялёў гэтых школ, паўнамоцнікаў і ўласьнікаў дамоў, гдзе мясьціліся гэтыя школы, солтысаў і іншых асоб, што стараліся аб адчыненьні памянутых школ; пры гэтым былі арыштаваны і адданы пад суд вучыцялі прыватных школ у Слонімскім пав. — Надзея Капітанчык, якая адміністрацыйным шляхам перад гэтым была засуджана Староствам на 7 дзён арышту і на заплачэньне 63 зл. кары і міравым Судом з § 129 К. К. была пакарана на 50 злотых. Вучыцелькі Марыя Белавусава, Вера Котрач, Яніна Дорык, Солтыс Ярэцко і моц іншых былі звольнены і пацягнуты да судовай адказнасьці, а нахальства выконваючых загад пашло так далёка, што н'ат падручнікі былі часткова сканфіскаваны, часткова зьніштажаны і нешчасьлівыя дзеці засталіся бяз школ, без вучыцялёў і нават без падручнікаў. З ліку да 400 школ да сёньняшняга дня засталася ў Віленшчыне 1 (у Вільні), у Наваградчыне 1 (у Навагр. пав.) і ў Горадзеншчыне 1 (у Горадні); рэшта пазачынена, перароблена на польскія, або, як застаўшыяся 18 школ у Віленшчыне—перароблены на двуязычныя.

Ня лепей стаіць справа з сярэдняю беларускаю школаю, дзе да заключэньня Рыскага Трактату істнавалі беларускія гімназіі ў Вільні, Радашкавічах, Будславе, Гарадку, Нясьвіжы і Навагрудку і за часоў Сярэдняе Літвы ў м. Барунах Ашмянскага пав. была нават адчынена вучыцельская беларуская сэмінарыя, якая пасьля таго, як Віленшчыну заняла польская ўлада, пасьля трохмесячнага істнаваньня зьліквідавана гэтаю ўладаю.

Улада, як адміністрацыйная, так і школьная карысталіся і надалей карыстаюцца ўсімі магчымасьцямі і найрозьнейшымі срэдствамі, каб зьліквідаваць і сярэднюю беларускую школу: зачынілі беларускую гімназію ў Гарадку-Віленскім і ў Будславе-Вялейскага пав., а ў 1921 годзе Нясьвіскае Староства выкінула на вуліцу беларускую гімназію з памяшчэньня, гэтай гімназіяй нанятага і адрэмантаванага на ўласны кошт гэтае гімназіі. Гімназія гэтая мусіла ў працягу трох гадоў туляцца па розных цесных і неадпаведных памяшчэньнях; куратар палескай школьнай акругі забараніў прыймаць хлопцаў-беларусаў у беларускую гімназію;—ён-жа адмовіў у зацьверджаньні дырэктара гэтае гімназіі нібы з прычыны браку польскага „obywatelstwa“, а гэты самы кандыдат у іншай школьнай акрузе зацьверджаны на гэтым становішчы; нарэшце ў 1923 г. куратар, бачачы, што ашуканскім спосабам задушыць беларускай гімназіі не ўдаецца, зачыняе яе, пакідаючы беларускую моладзь бяз ніякай беларускай сярэдняй школы ў сваёй акрузе, матывуючы гэта тым, „што беларуская людносьць не адчувае патрэбы беларускае школы“.

Калі ўвосені 1924 г, новы канцэсіонэр прадлажыў гэтаму куратару сто пяцьдзесят дэкларацыяў ад беларускай людносьці і пачаў дамагацца адчыненьня беларускае гімназіі з навучаючай роднай мовай, куратар быў змушаны лічыцца з фактам і даў засадніччую згоду на паўторнае адчыненьне беларускае гімназіі, але паставіў гэтулькі варункаў і вымогаў гэтулькі фармальнасьцяў, што гімназія ўжо адчыненая, пасьля прыняцьця вучняў у сем клясаў, мусіла зачыніцца—і зноў 150 вучняў з пасярод беларускай моладзі ў лістападзе, калі ўва ўсіх школах ужо йшла навука, засталіся бяз школы і навукі. Гэтакім чынам кончыўся школьны год і гімназія не істнавала ў 1923—24 г.

У 1921 годзе, калі гэты самы канцэссіонэр, з большым лікам тых-жа самых вучняў, сарганізаваў беларускую гімназію, ужо не ў Нясьвіжу але ў Клецку, таго ж пав. і зрабіў кампletна ўсе вымаганыя куратарам фармальнасьці што да будынку, вучыцялёў, кіраўніка,—а навет болей,—бо прадставіў на патрэбаваньне куратара эгзамінацыйныя сьпіскі вучняў і іх дакуманты ад 1 да 7 клясы ўключна, то куратар, пабачыўшы, што факт істнаваньня беларускае гімназіі ёсьць стаўшымся, і каб не дапусьціць да адкрыцьця, удаўся да Варшавы і, там парадзіўшыся з Міністрамі Асьветы і Унутраных Спраў, раптам адмовіў гэтаму грамадзяніну ў канцэсіі і такім чынам трэйці раз зьліквідаваў беларускую гімназію нібы таму, што „канцэсіонэр варожа настроены да польскае дзяржаўнасьці“. Трэйці раз па распачацьці школьнага году беларуская моладзь засталася бяз школы — выкінутай на вуліцу.

Вось — гэта тыя мэтады і спосабы польскае ўлады, якімі яна карыстаецца ў адносінах да беларускіх школ, каб іх зьліквідаваць. Тры гімназіі — у Будславе, у Гарадку-Віленскім і ў Нясьвіжы, а таксама і вучыцельская сэмінарыя ў Барунах сталі ўжо ахвярамі гэнае ўлады.

Застаўшыяся гімназіі, дзякуючы ахвярнасьці і вытрыманасьці беларускага вучыцельства і грамадзянства, яшчэ сяк так жывуць, бо ніякай дапамогі ад польскага ўраду не атрымоўваюць, ня-

кіх правоў для ўступленьня ў вышэйшыя польскія школы ўлада не дае, не дае таксама адсрочкі вайсковае службы для вучняў гэтае гімназіі, а навет не дае права — як вучням польскіх школ — на зьніжковы праезд па чыгунцы.

Яшчэ наадварот, нічога не даючы гэтым гімназіям, цэнтральная школьная ўлада, ня гледзячы на Вэрсальскі і Рыскі трактаты і Канстытуцыі (§ 110), змагаецца з і бяз гэтага ўжо крыўдзячым уставам аб школьніцтве для нацыянальных меншасьцяў (Уст, з дн. 31 VII 1924 г.), робіць замах на нацыянальны характар беларускіх школ (ня гледзячы на § 90 уст. з дня 17. III. 1921 г.), не шануючы навет сваіх уставаў, бо вымагаючы навучаньня ў прыватных беларускіх сярэдніх школах агульнай гісторыі і агульнай геаграфіі папольску, што пярэчыць 7 і 8 уставу з дня 31. VII 1924 г, (Дз. Уст. № 79, паз. 766, 1924 г.).

Аб вышэйшай беларускай школе ў Польшчы няма і мовы. Улада нібы то прабавала даць магчымасьць для беларускай моладзі слухаць лекцыі беларусазнаўства ў Віленскім Унівэрсытэце. У 1921 г. быў адчынены пры Віленскім Унівэрсытэце аддзел беларусазнаўства. Але гэтае беларусазнаўства—па першае мелася чытацца не пабеларуску, але папольску, а па другое, лекцыі прафэсара-паляка былі так тэндэнцыйнымі, што аддзел гэты быў зачынены, бо ніводзін беларускі студэнт ня мог змусіць сябе хадзіць на падобныя выклады.

У канцы канцоў зьявілася доўга чаканае распараджэньне Міністра Асьветы з дня 7. I. 25 г. аб увядзеньні ў жыцьцё ўставу з дня 31. VII 24 г., якое падае парадак адчыненьня беларускіх школ там, дзе ніякіх яшчэ школ ня было, а таксама перарабленьня польскіх школ на беларускія. Здавалася-б, што пасьля зачыненьня беларускіх школ, пасьля ліхое долі сотак пастаноў сельскіх сходаў аб адчыненьні баларускіх школ, гэтае распараджэньне зусім адбярэ ахвоту ў сялян дамагацца ўласнае школы. Аднак жа, у груньце рэчы беларускае грамадзянства паказала сваю сьвядомасьць і моцнасьць у змаганьні за родную школу. Тысячы дэкляраць́яў былі напісаны бацькамі, жадаючы беларускай школы; ня гледзячы на безрэзультатнасьць, цэлымі грамадамі нясьлі сяляне дэклярацыі ў гміны, каб згодна з распараджэньнем пасьведчыць уласнаручныя подпісы ў кароткім часе, бо да 31 марта 1925 г. Але і тут у гмінах трэба было зламаць доўгія і моцныя перашкоды войтаў, якія хітрасьцяй, ашуканствам, пастрахамі і іншымі спосабамі не хацелі пасьведчыць подпісаў бацькоў—беларусаў. Па колькі разоў трэба было хадзіць да гміны за 10—12 кілямэтраў, каб змусіць войта выканаць абавязваючае яго распараджэньне аб неабходным пацьверджаньні подпісаў і пры гэтым бясплатна. Тут падаем некалькі фактаў з незьлічаных пагвалчэньняў права гэтымі самаўладамі, якія, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускай школы, адцягвалі пасьведчаньне подпісаў на дэклярацыях аж да апошняга дня злажэньня дэклярацыяў.

Падаем толькі тыя гміны, аб якіх дахадзілі да нас чуткі: **у Вялейскім пав.**—войты гмінаў Маладэчненскай і Хаценчыцкай матывавалі гэта тым, што ня мелі адносных загадаў ад староставў; **у Дунілавіцкім пав.** войт Парплінскай гм. вымагаў за пасьведчаньне подпісаў штамплевай аплаты (што пярэчыць распараджэньню Мін. Унутр. Спраў з дня 12. II. 1925 г.), войт Парфянаўскай гм. адмовіў пасьведчыць подпісаў бяз ніякіх выясьненьняў; **у Дзісьненскім пав.** войт Язьненскай гм. Багудзкі не пасьведчыў подпісаў на дэклярацыях з тае прычыны, што яны былі напісаны ад рукі, а не друкаваны; у Празароцкай гм. войт Сейшалкоўскі вымагаў за пасьведчаньне подпісу па злотаму за кожную дэклярацыю і тэрорызаваў дэклярантаў; **у Валожынскім пав.** войт Палачанскай гм., Міхал Леган, да дня 31 сакавіка (апошняга дня падаваньня дэклярацыяў інспэктаром) не пасьведчыў подпісаў, выкручваючыся найрозьнейшымі спосабамі—то абяцаў на „заўтра“, то хаваўся, то быў запрацованы і г. п.; **у Горадзенскім пав.** войт Бэрштанскай гм. А. Тамулевіч за пасьведчаньне подпісу браў 50 грошай; **у Лідзкім пав.** войт Бяліцкай гм. адмаўляў пасьведчываць подпісы з прычыны браку распараджэньня старосты; **у Ваўкавыскім пав.** войт Сьвіслацкай гм. Фэлікс Дырында катэгорычна адмовіў пасьведчываньне подпісаў, выганяючы дэклярантаў з гміннага будынку, нахальна і цынічна адзываючыся аб мове і школе беларускай; войт Ізабелінскай гм. Міхал Ягельніцкі ашукваў бацькоў да 31 сакавіка, а калі час падаваньня дэклярацыяў быў прадоўжаны да дня 30 красавіка, то таксама не пасьведчываў подпісаў на дэклярацыях, тлумачучыся тым, што школьны інспэктар забараніў яму гэта рабіць—бо ўжо прайшоў час; **у Наваградзкім пав.** войт Шчарсоўскай гм, Ян Каляда і Райчанскай гм.—Рамаоўскі адмаўлялі пасьведчваць подпісы з прычыны браку распараджэньня староства; войт Любчанскай гм. Шыкаловіч браў за кожную дэклярацыю па 25 грошай; **у Нясьвіскім пав.** войт Горадзенскай гм. Амбражэвіч вымагаў па 2 злотых ад дэклярацыі; войты гмінаў Жухавіцкай і Сноўскай адмаўляліся пасьведчваць подпісы з прычыны браку распараджэньня староства; **у Пружанскім пав.** войты наагул адмаўляліся пасьведчываць подпісы; **у Стаўпецкім пав.** войт Сьвержанскай гм. катэгорычна адмовіў у пасьведчваньні подпісаў на дэклярацыях і бацькі гэтае гміны былі змушаны перасылаць сваі дэклярацыі праз Беларускі Пасольскі Клюб да Міністэрства Унутраных Спраў; **у Слонімскім пав.** войты гмінаў Стыравяскоўай, Казлоўскай, Пацаўскай і Дзеравенскай адмовіліся пацьверджваць подпісы; войты гмінаў Марыянскай і Жыровіцкай бралі па 50 гр. ад кожнай дэклярацыі, апрача таго, войт Пацаўскай гм. не хацеў слухаць доказаў каманданта паліцыі і дамагаўся заплачэньня кары за пасеў тытуну ўзамену за пасьведчаньне подпісаў на дэклярацыях; **у Ашмянскім пав.** войт Смаргонскай гм тэрарызаваў дэклярантаў, што ўсіх іх усадзіць у вастрог; — паліцыя то-ж рабіла ўсялякага роду труднасьці для тых, хто хацеў падаць вышэй памянутыя дэклярацыі, рабіла вобыскі ў дэклярантаў, у вучыцялёў, у паўнамоцнікаў, канфіскавала дэклярацыі, зьдзекавалася над мовай і школай беларускай, дамагалася выдачы асобаў, што давалі дэклярацыі і тых, хто іх пісаў і г. пад. Пастарунак паліцыі ў Сноўскай гм., Нясьвіскага пав. зрабіў вобыск у жыхароў, а таксама ў паўнамоцніка ў в. Высокая Ліпа і сканфіскаваў дэклярацыі; **у Стаўпацкім пав.** паліцыя зрабіла вобыск у дэклярантаў у м. Новы Сьвержань; **у Вялейскім пав.** камандант Хаценчыцкага пас. тэрорызаваў паўнамоцніка дэклярантаў, Віктара Шарамэта, зьдзекаваўся над ім, над школай і мовай беларускай і над дэклярантамі.

**Школьныя інспэктары**, прымаючы ад паўнамоцнікаў дэклярацыі, адмаўлялі ў выдачы паквітаваньняў, якімі паўнамоцнікі мусілі даказаць, што яны падалі дэклярацыі на рукі інспэктара, вымагалі, каб як найхутчэй былі паданы мэтрыкі аб сьмерці мужа — калі ўдава падавала дэклярацыю, жадаючы беларускай школы; намаўлялі каб бацькі ўзялі назад свае дэклярацыі, ужо пададзеныя з жаданьнем беларускай школы, і каб далі згоду на адчыненьне польскай школы з беларускай мовай, толькі як прадметам, і змушалі да гэтага ня толькі беспасярэдна, але паручалі іншым асобам, як польскім вучыцялём — нішчыць дэклярацыі аб беларускай школе, напрыклад, агентаў Хрысціянскай Дэмакратыі, якія тэрорызавалі дэклярантаў, што, калі яны занадта будуць дамагацца беларускай школы, то ня будзе ніякай школы; абяцалі старацца матэр'ялу на адбудову, калі згодзяцца бацькі забраць назад сваі беларускія дэклярацыі і г. п.

Для ілюстрацыі падаем факты: школьны інспэктар **Ашмянскага** пав. ня даў паквітваньня паўнамоцніку Янчуковічу, насьмяхаўся над беларускай мовай і вымагаў мэтрыкі на кошт вучняў; школьны інспэктар **Вялейскага** пав. намаўляў паўнамоцнікаў, каб замест беларускай школы жадалі польскай, бо пасьля скончаньня беларускай школы, ніякай службы не дастануць. У гэтым жа павеце вельмі спрытна вялі агітацыю проціў беларускай школы на карысьць польскай — вучыцялі польскіх школ у Сухарах і Дзядзічах Курэніцкай гміны, пагражаючы нават арыштам. У гэтым жа павеце разьяжджалі агенты інспэктара, якія выдавалі сябе сярод стэрорызаванай людкасьці за інспэктароў і на сельскіх сходах вялі агітацыю, каб бацькі забралі назад свае дэклярацыі з жаданьнем беларускіх школ і падалі новыя з жаданьнем польскіх школ, а калі тут ня мелі пасьпеху, дык клікалі паасобку бацькоў да асобнага пакою і там ашуканскім спосабам пры помачы розных ашуканстваў змушалі браць назад дэклярацыі (у в, Габінова, Савіна, Ліцовізнкі, Быхоўшчызна, Пукэні, Саковічы, Куранец, Куранецкай гм.; у в, Вялікае Сяло Маладзечанскай гм. гэткія факты мелі месца). Іншыя агенты выдавалі сябе за пасланцоў Беларускага Пасольскага Клюбу, нібы каб дапамагчы сялянам падаваць дэклярацыі і стараліся выманіць і зьнішчыць беларускія дэклярацыі (в. Острава, Куранецкай гм.). **У Дунілавіцкім** пав. вучыцель польскае школы ў в. Кашыцы, Манікавецкае гм., а таксама вучыцялі ў в. Ліпнікі Пастаўскае гм. намаўлялі і змушалі складаць дэклярацыі на польскую школу. Школьны інспэктар **Баранавіцкага** пав. ня даў паквітаваньня в. Рачкочы, Ляхавіцкае гм,, і калі паўнамоцнік пастанавіў упорна дамагацца паквітаваньня, то інспэктар пагражаў ня прыняць дэклярацыяў, Школьны інспэктар **Горадзенскага** пав. зусім не выдаваў паквітаваньняў для паўнамоцнікаў і вымагаў, каб усе бацькі асабіста зьявіліся да яго і прадставілі яму мэтрыкі на дзяцей, паданых у дэклярацыях, а калі выступала матка—удава, то каб апрача дэклярацыі прадставіла мэтрыку аб сьмерці мужа і аб веку дзяцей. **У Косаўскім** пав. ўпаўнаважваныя інспэктарам вучыцялі польскіх пачаткавых школ, вельмі энэргічна працавалі, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускае школы. Вучыцель у в. Балянск, Ружанскай гм., Рапацкі, — ён-жа і асаднік, разьяжджаў па вёсках і намаўляў, каб падпісваліся на польскую школу. Вучыцелька польскай пачаткавай школы ў в, Скуратава, Касоўскай гм. дэфэнзыўным спосабам тэрарызавала бацькоў, якія падалі дэклярацыі на беларускую школу, дамагаючыся выдаваньня асобаў, якія пісалі дэклярацыі і пагражаючы арыштам паўнамоцнікаў і урэшце выlівала ўсю сваю злосьць на сваіх вучняў. Школьны інспэктар **Наваградзкага** пав. вымагаў ад дэклярантаў зусім бясправўна, як і ўсе іншыя вышэй памянутыя інспэктары, каб у працягу месяца ўсе бацькі дэкляранты падалі мэтрыкі на дзяцей, паданых у дэклярацыях (в. Даўгінава, Сенна і інш.). Інспэктар **Нясьвіскага** пав. адмовіўся прыняць дэклярацыі пасьля 31 сакавіка, ня гледзячы на тое, што час падаваньня дэклярацыяў быў працягнуты да 30 красавіка (вёска Труекава Сноўскай гм,). Школьны інспэктар **Пружанскага** пав. не выдаваў паўнамоцнікам паквітаваньняў аб атрыманьні дэклярацыяў, страшыў, што ня дасьць ніякай школы, дамагаўся выясьненьня, хто іменна радзіў падаваць дэклярацыі на беларускую школу (в. Руднікі, Смаляніцкай гм. і інш.).

Вучыцель польскае школы ў в. Смаляніцах, Наскоўскай гм., будучы абураны, што ў яго раёне паданы дэклярацыі на беларускую школу, дзікім спосабам абражае дзяцей гэтае школы. Школьны інспэктар **Слонімскага** пав проці распараджэньня Міністра Асьветы з дня 7. I. 1925 г. жадаў, каб у дэклярантаў быў паказаны век вучняў і не выдаваў паквітаваньняў (у в. Валацеева, Новікі, Хінавічы).

Ня гледзячы на тысячы перашкоды з боку мясцовай адміністрацыі, тайнай і яўнай паліцыі, школьных інспэктароў і польскіх вучыцялёў беларуская люднасьць у самы кароткі час падала дэклярацыяў на 412 беларускіх школ. Гэта значыць меней-больш на 20.000 дзяцей.

Згодна з гэтым школьная ўлада павінна была ў сёлетнім годзе адчыніць гэтыя 412 беларускіх школ, але — на дзеле — не адчыніла ані воднай беларускай беларускай школы; — а нават застаўшыяся 18 беларускіх школ перарабляе на двуязычныя, — чыста беларускай-жа школы, якой жадала мясцовая людкасьць, улада навет і ня думае адчыняць, гвалчачы такім чынам § 3 уставу з дня 31/VII 1924 г., дзе гаворыцца аб адчыненьні чыста беларускіх школ.

Каб не дапусьціць да жыцьця беларускіх школ, школьныя ўлады ўжываюць розных спосабаў, каб уняважніць паданыя дэклярацыі, карыстаючыся для гэтага ўсялякімі спосабамі. Як прыклад гэтага, служыць пісьмо школьнага інспэктара Косаўскага пав. з дня 23/IX 1925 г. № 526, у якім даслоўна піша:

Абвешчаньне: Школьны інспэктар Косаўскага пав. згодна з § 12 выканаўчага распараджэньн Міністра Выз. Рэл. і Пуб. Асьветы з дня 7 студзеня 1925 году да языковага школьнага ўставу з дня 31/VII 1924 г. (Дз. Уст. R. P. № 3 паз. 33) гэтым падае да ведама заінтэрэсаваных бацькоў, жыхароў в. Кавалі, Ружанскае гм.— зьмест пастановы пана Куратара Палескае Школьнае Акругі з дня 14/IX 1925 г. № 11741/I у справе навучальнай мовы ў дзьвёх-клясовай публічнай пачатковай школе ў Кавалёх.

Зробленае Куратарам рассьледаваньне пададзеных бацькамі дадзенага школьнага абводу дэклярацыяў згодна з § 3 вышэй паказанага языковага ўставу (Дз. Уст. Р. П. № 79 паз. 766) дало наступны вынік:

1) Дэклярацыяў аб навучальнай беларускай мове пададзена з Кавалёў агулам на 100 дзяцей.

2) З гэтых прызнана а) слушнымі на 9 дзяцей, в) уняважнена з прычыны сфальшаваньня подпісу, браку поўнамоцніцтва, пазашкольнага веку дзіцяці, няспраўнасьці апякунства, поўнай нясьведамасьці аб зьмесьце і мэце дэклярацыі, забраньня назад дэклярацыі і высказаньня за чыста польскую школу, або за польскую з роднай мовай, як прадметам, і іншых праўных прычын — на 91 дзіця.

3) Дэклярацыяў, каб засталася чыста польская школа, пададзены на 10 дзяцей.

На падставе вышэйшага выніку, тасуючыся да § 3 папярэдне памянутага языковага школьнага Уставу з дня 31/VII 1925 г., навучальнай мовай у 2 клясовай публічнай пачатковай школе у Кавалёх застаецца датагачасная дзяржаўная мова.

З гэтаю пастановаю пана Куратара О. С. П. прыслугоўвае згодна з § № 12 выканаўчага распараджэньня М. Р В. і П. А. з дня 7. I. 1925 г. да языковага школьнага ўставу з дня 31/VII 25 г. зацікаўленым бацьком—права зьвярнуцца да пана Міністра Р. В. і П. Асьветы ў працягу 14 дзен ад дня вывешаньня гэтага.

(Неразборчывы подпіс)
Школьны інспэктакар.

Уневажняючы дэклярацыі з жаданьнем адчыненьня беларускіх школ, улада адначасна тэрорызуе мясцовую беларускую людкасьць, думаючы гэтакім чынам не дапусьціць да падаваньня новых такіх самых дэклярацыяў. Арышты, якія мелі месца ў пачатку сакавіка 1925 г. ў Наваградзкім ваяв. (1386 асоб), дзе людкасьць найэнэргічней падавала памянутыя дэклярацыі ў іншых частках Беларускіх зямель (Беластоцкае ваяв., Палесьсе і Віленшчына) да тэгай пары яшчэ трываюць. Болей сьвядамыя сяляне і інтэлігэнцыя беларуская, якія бралі актыўны ўдзел у складаньні дэклярацыяў, немаль усе былі арыштаваны, а многія з іх і па сёняшні дзень яшчэ сядзяць у перапоўненых вастрогах, абвінавачаныя нібы ў агітацыі і належнасьці да проціўдзяржаўных арганізацыяў, да іх стасуюцца нялюдзкія пыткі, змушаючы іх прызнацца да таго, чаго хоча паліцыя.

Сьцвярждаем, што беларускае школьніцтва ад часу заняцьця Польскаю Уладаю Беларускіх Зямель — зусім зьнішчана і такі-ж стан беларускага школьніцтва на нашых землях з часу ўваходу ў жыцьцё Грабска-Тугутаўскага ўставу з дня 31/VII 1924 г.

Усё гэта кіруецца да таго, каб чым хутчэй спольшчыць беларускую людкасьць, або душыць беларускую культуру. Найважнейшым ува ўсім гэтым крыжовым паходзе польскае ўлады проці беларускае кукьтуры ёсьць тое, што ўсе гэтыя нарушэньні законаў робяцца ня толькі дзякуючы поблажцы, але згодна з замерамі польскае цэнтральнае ўлады: усе надужыцьці, крыўды і зьдзекі, робленыя польскімі дзяржаўнымі ўрадоўцамі ў адносінах да беларусаў, праходзяць зусім бяскарна і дзякуючы гэтаму ясна даецца зразумець урадоўцам, як яны наагул маюць трактаваць беларускую культуру і школу, а таксама і самых інтэрэсантаў-беларусаў.

Дэманструючы на эўрапэйскім форуме сваю нібы толеранцыю ў адносінаха да нацыянальных меншасьцяў, польскія ўрады стала вядуць палітыку нацыянальнага ўціску ў адносінах да гэтых меншасьцяў, а асабліва ў адносінах да беларусаў.

Дзеля гэтага ніжэй падпісаныя пытаюць пана Міністра Рэл. Выз. і Публ. Асьв.:

1) Ці склонны ён пакінуць палітыку дэнацыяналізацыі у адносінах да беларусаў, якую вядзе ён і яго паўнамоцнікі?

2) Ці склонны ён загадаць, каб былі адчынены тыя 412 беларускіх школ, на якія былі паданы прадбачаныя законам дэклярацыі?

3) Ці маніцца п. Міністар Асьветы і п. Міністар Унутр. Спраў пакараць куратараў і школьных інспэктараў на беларускіх землях, а таксама старостаў і гмінных войтаў, вінаватых у робленьні перашкодаў пры складаньні памянутых дэкляраціяў і ў агульным перасьледаваньні беларускага школьніцтва?

Варшава дня 30 сьнежня 1925.

**Інтэрпэлянты.**

# Сьпешная прапазыцыя

**паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў справе масавых арыштаў, паліцэйскага тэрору і нялюдзкага катаваньня і зьдзекаваньня над беларускімі сялянамі.**

Гвалты паліцыі над беларускай люднасьцяй ня толькі трываюць далей бязупынна, але павялічваюцца што раз, то—балей і даходзяць да нялюдзкіх разьмераў. Люднасьць ужо так стэрорызавана і да тае ступені пераконана аб поўнай безадказнасьці катуючай яе паліцыі, што навет не скардзіцца на сваіх катаў.

Паміма гэтага, аднак, з усіх куткоў Заходняй Беларусі даходзяць да нас весткі аб змушаючым адвярнуцца нялюдзкім зьдзекаваньні паліцыі над безбароннай люднасьцяй.

Паліцэйскі тэрор тасуецца ўсюды і сыстэматычна. Катаваньні і пыткі ў адносінах да бясспраўна і беспадстаўна арыштаваных беларускіх сялян топчуць пад ногі найболей прымітыўныя правы людзкасьці. Нячуваная сыстэма „баданьня" беларускіх сялян польскай паліцыяй прыпамінае нам варварскую эпоху і сярэдневяковыя часы. Апісаньні мукаў і катаваньняў, якія дазнаюць арыштаваныя, выклікаюць дрыжыкі праціўнасьці і страху. Не падлягае ніякаму сумліву, што тая „дзеяльнасьць" паліцыі тасуецца са згоды і ведама адміністрацыйнай улады і адказных органаў. Факты катаваньня арыштаваных не зьяўляюцца прыпадковымі і адарванымі здарэньнямі, якія можна было ўважаць за зьверства данага функцыянэра паліцыі. Паўтараюцца яны бес перастанку ў розных мясьцовасьцях і ў адносінах да ўсіх арыштаваных. Гэта —сыстэма, гэта—ўжо мэтода. На гэтае агульнае і праціўнае катаваньне арыштаваных сялян не адважыліся-б ніжэйшыя функцыянэры паліцыі, калі-б ня мелі на гэта адпаведных навучаньняў згары і забясьпечаньня поўнай бяскарнасьці.

Вось у агульных рысах мэтода катаваньня беларускіх сялян: перадусім б'юць і то пераважна зьвязаўшы. Мэтай гэтага зьяўляецца вымушэньне паказаньняў, якія сама паліцыя дыктуе і б'е датуль, пакуль катованы не паўторыць за дыктуючым і не падпіша зробленага пратаколу. Бываюць гэтакія выпадкі, што мэтай катаваньня не зьяўляецца вымушэньне паказаньня, але проста дзікі акт помсты або быдлячае задаваленьне садызму паліцыі. Б'юць па твары, галаве, плечах у гудзі і г. д. або кулакамі, або тупым цьвёрдым аружжам, або гумовымі кіямі і шампаламі. Агульна прынята біцьцё ў пяты. Заўсёды паўтараецца ўліваньне вады з оцтам праз нос, што выклікае крывяцячэньні з лёгкіх. Заўсёды стасуецца калоньне пад ногці і калоньне цела. Б'юць зазвычай да патраты прытомнасьці, пасьля ачучваюць, ня раз агнем, сьнегам або калоньнем, потым зноў катуюць і зьдзекаваюцца. Часта бывае, што каб унемагчыміць сьледзтва з прычыны скаргі катаванага прыводзяць функцыянэраў з іншых пастарункаў дзяржаўнай паліцыі, або завязываюць ахвярам пытак вочы, а навет быў факт, што для гэтага прыгатавалі вядро гліны, якою замазвалі вочы і рот катаванага. Рот затыкаюць ганучамі, каб ня чутно было енкаў.

Поўнай рэгістрацыі катаваных няма, бо тэрор зьяўляецца агульным і трэба было-б залажыць хіба якісь цэлы апарат для рэгістрацыі, каб дапяць гэтае. Урэшце большая частка пацярпеўшых ня сьмее навет скардзіцца, баючыся бяскарнай і усяўладнай паліцыі. Бываюць выпадкі, што сямья навет скатаванага і жыхары цэлай вёскі тояць у панурым маўчаньні выпадкі праціўных паліцэйскіх гвалтаў і ня раз толькі ў некалькі месяцаў прыпадкам даходзіць вестка да публічнага ведама.

Вось жменя фактаў, датаў і іменаў.

У другой палове студзеня с. г. арыштаваны цэлы рад людзей у вёсках Кокошынцы і Шылаўка Слонімскага пав. Арыштаваных трымаюць дацяпер і нялюдзкім спосабам катуюць у экспозытуры слонімскай паліцыі. Сымону Рамановічу ў в. Шылаўка прыкавалі кайданамі рукі да ног і білі гэтак зьвязанага да страты прытомнасьці. Самлеўшага ачучвалі, прыкладаючы яму гарачы папярос да рук і грудзей, а калі гэта не памагло—аблажылі яго сьнегам. Боль і холад прывялі няшчаснага да прытомнасьці, і пасьля ізноў катавалі яго агідным спосабам. Тодара Кавалеўскага з вескі Шалаўка валаклі за валасы, потым прывязалі яму рукі да ног і білі ў пяты да страты прытомнасьці. Гэтак сама, як і двох папярэдніх, катавалі Мацея Гараську. Лявон Гурскі, якому апрача вышэй памянутых катаваньняў дадалі ўліваньне вады з оцтам у нос — траціў некалькі разоў прытомнасьць у часе катаваньня. Гэтак сама мучылі Сымона Дабрыяна і Мацея Дабрыяна, Янку Лукашэню — катавалі, як і папярэдніх, а апрача таго калолі яму цела і налівалі гэтыя ўколы оцтам. Паўла Солтыса білі і правацыравалі. Дзямьяна Гараську і Сымана Рамановіча падвешвалі пад рукі па некалькі разоў у дзень і марылі голадам. Апрача вышэй памянутых арыштавалі яшчэ 10 асоб з в. Шылаўцы.

Як рабілі прымусовую ліцытацыю за зацягнуўшыяся падаткі, арыштавалі солтыса в. Какольчыцы, Чарэмскай гм., Слонімскага пав. Аляксандра Дабрыяна за тое, што асьмеліўся прасіць, каб адлажылі ліцытацыю з прычыны вялікай нуды жыхароў. За гэты „праступак" забралі яго на пастарунак, куды таксама прыехалі каты з павятовай паліцыі ў Слоніме. Дабрыяна катавалі ад 9 гадз. да 12 уначы. Завязалі яму вочы ганучаю і заткнулі рот, а калі сіліўся сарваць ганучы — заляпілі яму вочы і рот глінаю. Білі яго так, што некалькі разоў траціў прытомнасьць. Катаваньне адбывалася ў прысутнасьці каманданта дзяржаўнай паліцыі ў Касьцяновіцах № 1377. Па поўначы выкінулі скатаванага за дзьверы, бяз спісаньня пратаколу. Гэты факт меў месца ў кастрычніку мінулага году, а толькі ў канцы студзеня с. г. даведаліся аб гэтым шырокія масы беларускага грамадзянства, бо, як катаваны солтыс, так яго сямья, а навет і жыхары в. Какольчыцы таілі аб гэтым паліцэйскім бэстынстве, баючыся помсты. Дабрыян лячыўся патаемна ў прыватнага дохтара і да сягоньня паважна хворы.

12 ліпня мінулага году арыштавалі ў в. Малая Берастaвіца, Горадзенскага пав., Антося Сіцько і пасадзілі ў вастрозе ў Горадні. Каля 15 га жніўня мінулага году перавязьлі яго ў в. Калісьнікі таго-ж павету на пастарунак дзяржаўнай паліцыі, дзе рабілі „badanie". Тут перадусім 3 дні марылі яго голадам, потым білі яго па твары, на згібах рук, у грудзі і пяты. У рэзультацe гэтага катаваньня засталіся ў яго раны на пятах, грудзях і зьгібах рук. Як вязьлі яго назад у Горадню, то прыгатавілі яму спэцыяльны воз з саломаю, бо сядзець у аўтабусе ня мог. Навет вастрожная адміністрацыя прызнала патрэбным адаслаць яго ў вастрожную бальніцу, дзе ён і да гэтае пары знаходзіцца і ня можа прыйсьці да здароўя. Напэўна з прычыны катаваньня разьвіваецца якаясь паважная хвароба, бо з рота хворага без прастанку нясе прыкрым запахам.

У в. Касьцянёва, Слонімскага пав. ў сьнежні мінулага году зажадаў местны пастарунковы ў жыхара тае-ж вёскі Сьцяпана Мандрукевіча, каб прыняў у хату рэчы свае сястры. Мандрукевіч адмовіўся. Тады пастарунковы арыштаваў непаслушнага, завёў яго на мясцовы пастарунак дзяржаўнай паліцыі, аддаў яго каманданту пастарунку № 1377, які адразу пачаў біць арыштаванага па твары. Мандрукевіч кінуўся ўцякаць, аднак, быў затрыманы ў дзьвярох іншым паліцыянтам, які так моцна схапіў яго за галаву, што ногці ўпіліся яму ў цела да крыві. Потым завязалі яму рот ручнікам, паваліў яго на зямлю і білі, „дзе папала і колькі ўлезе". Калі аскаціўшыяся паліцыянты насыціліся ўжо біцьцём зьвязанага, закавалі яму рукі і ногі ў кайданы і апрача таго зьвязалі яму ногі і рукі і прыкавалі да сьцяны і прабавалі застрашыць яго тэрорам. Таго самага дня звольнілі скатаванага і выкінулі яго на вуліцу, пры чым паліцыянт даслоўна сказаў, што павінен маўчаць і не выдаваць сваіх катаў, бо ў праціўным выпадку „зьгіне, як сабака".

28 кастрычніка, у часе масовых арыштаў у Нясьвіскім пав. арыштавалі Міхала Карповіча з в. Турашчыны, Нясьв. пав. і перавязлі на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Ніцавіцы, дзе пісалі пратакол на арыштаванага: Кіраўнік экспозытуры Пухальскі, функцянэр Міхал Сулетыцкі, Дэў і іншыя. Каб змусіць арыштаванага падпісаць зроблены паліцыяй пратакол, стасавалі да Карповіча наступныя катаваньні: вырывалі валасы з галавы, білі кулакамі ў твар, у нос і па ўсім целе, усаджвалі шпількі пад ногці, білі гумовы кіем у пяты, калолі цела шпількамі, білі шампаламі, сьціскалі пальцы паміж дзьвярамі, на паваленага на зямлю сядалі каты і білі яго равальвэрамі па горле і найболей чулых мясцох. На закончаньне прыстаўлялі яму рэвальвэр да галавы, пагражаючы яму, што застрэляць. Уначы з 31 кастрычніка на 1 лістапада паўтарылі зноў вышэй апісаныя катаваньні, пры чым функцянэр дзяржаўнай паліцыі Міхал Сулетыцкі так моцна ўдэрыў арыштаванага па вусе, што лопнула барабаная балонка.

2 лютага с. г. арыштавалі ў в. Ляскі, Берасьцейскага пав. Захара Грышкоўскага і адправілі яго на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Каменцу Ліпоўскім. Пратакол на арыштаванага пісала палітычная паліцыя ў Берасьці, прычым жадалі ад яго, каб згадзіўся на робленыя яму закіды. А як адмовіўся, білі яго ў грудзі, хваталі абедзьвюма рукамі за горла так, што ён душыўся, потым кідалі яго на зямлю і валаклі яго за валасы, білі нагамі ў грудзі і жывот. У катаваньні браў удзел таксама функцыянэр дзяржаўнай паліцыі з Высокалітоўска № 20. Пасьля схавалі арыштаванага і аддалі яго паліцыянту № 435, які так моцна піхнуў яго, што дзьверы адчыніліся пад яго напорам. Ад схаванага і далей жадалі, каб прызнаўся да рабленых яму закідаў, і зноў білі. На другі дзень у 12 гадз. уначы ізноў „badał" арыштаванага п'яны, чуць стоячы на нагах паліцыянт (прозьвішча яго зачынаецца на О) і зноў білі і катавалі да страты прытомнасьці. Раніцою зноў паўтарылі чацьверты раз „badanie" ў прысутнасьці таго-ж паліцыянта, які катаваў яго ўначы і яшчэ аднаго агента палітычнай паліцыі, змушаючы арыштаванага падпісаць пратакол. А як адмовіўся, то зноў абодва функцыянэры катавалі да патраты прытомнасьці. У рэзультаце ўсіх гэтых пытак арыштаваны падпісаў фальшывы зроблены паліцыяй пратакол, каб пазбавіцца ад далейшых пытак.

6 лютага с. г. арыштавалі ў в. Воля, Берасьцейскага пав. Яўхіма Цыбулю і адаслалі на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Берасьці Літоўскім. У часе „badania" арыштаванага білі да страты прытомнасьці і то каб змусіць паказаць патрэбнае паліцыі. Біў паліцыянт, прозьвішча якога зачынаецца на О. Катаваны, якога валаклі за валасы і білі кулакамі, паўтарыў дыктаваныя яму паказаньні, каб ратаваць жыцьцё. За найменшы спрацію пры сьпісваньні пратакалу прыціскалі арыштванага да сьцяны і білі, пакуль не згаджаўся паўтарыць дыктаваныя яму паказаньні.

3 лютага с. г. арыштавалі ў в. Крыўляны, Берасьцейскага пав. Дарацея Гука і адаслалі яго на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Каменцу Ліпоўскім, дзе, каб вымусіць паказаньні, білі арыштаванага кулакамі па твары, галаве, шыі і па ўсім целе, а таксама білі нагамі, так што катаваны страціў прытомнасьць і ўпаў на зямлю. Тады адзін з паліцыянтаў выцягнуў яго на двор, дзе аблівалі яго вадою, каб прывясьці яго да прытомнасьці. Ачуцьціўшы ўдэрыў яго паліцыянт кулаком у грудзі і зноў завёў на пастарунак, дзе паўтарыліся катаваньні. Ня здолеўшы вымусіць ад арыштаванага ніякіх паказаньняў, адвялі його пад канвоем да хаты. Па дародзе паліцыянт, што вёў яго, казаў арыштаванаму, што калі-б пры наступным „badaniu" не падасьць патрэбных паліцыі паказаньняў, то так будуць біць, што каб кроў дзюркачом ішла і скура злазіла, а пад ногці шпілкі ўбіваць будуць. Калі ў наступны дзень вечарам зноў арыштавалі гэтага-ж Гука і прывялі яго на пастарунак у Каменцу Ліпоўскім, — пацьвердзіў ён усе, што ад яго вымагала паліцыя, каб толькі вызбавіцца ад катаваньняў.

6 лютага с. г. арыштавалі ў в. Крыўляны, Берасьцейскага пав. Ігната Гаўрылюка і адаслалі на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Каменцу Ліпоўскім, дзе зажадалі ад яго даваць паказаньні, якія хоча паліцыя. Як адмовіўся,— білі яго кулакамі па галаве, твару, грудзёх і г. д. Каб заглушыць крык катаванага, душылі яго за горла і пагражалі, што будзе задушаны, калі пасьмее крычаць. Скатаваны арыштаваны падпісаў пратакол, які толькі хацела паліцыя.

3 лютага арыштавалі ўва ўспомненай вёсцай Рыгора Садоўскага і адаслалі на пастарунак у Берасьці Літоўскім. Тут паўтарылася вышэй апісаная гісторыя. Зноў вымушалі паказаньні, білі і катавалі, пры чым браў удзел у катаваньні той-жа слаўны паліцыянт, прозьвішча якога начынаецца на О. Стэрорызаваны арыштаваны падпісаў зроблены паліцыяй пратакол.

Уначы з 15 на 16 сьнежня арыштавалі 12 сялян з в. Іраўляны Адэльскай гм. і з в. Кнушавічы, Шудзялоўскай гм., Горадзэнскага пав. Усіх арыштаваных білі і катавалі, каб вымусіць паказаньні. Аднаго з іх селяніна Шаха катавалі гэткім спосабам: зьвязалі яго так, што ногі абнімалі калені, а праз зогнутыя локці і калені прасунулі шаблю і зьвязанага білі да тае ступені, што катаваны ратуючыся паламаў шаблю. Апрача таго ўлілі яму некалькі бутэлек вады з оцтам праз нос.

Масовыя арышты беларускага сялянства былі зроблены ў паветах: Слонімскім, Берасьцейскім, Горадзенскім, Сакольскім, Косаўскім, Пружанскім, Беластоцкім, Аўгустоўскім, Бельскім і Віленскім.

Дзеля гэтага падаем прапазыцыю:

Высокі Сойм ухваліць:

1) Выдзяляецца Соймавая Камісія, у склад якой уходзілі-б прадстаўнікі соймавай апазіцыі, а пераважна Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, каб рассьледаваць у працягу месяца рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі і злажыць справаздачу Сойму.

2) Сойм заклікае ўрад: а) каб ураз-жа быў звольнены і пацягнуты да карна-судовай адказнасьці ваявода Навагрудзі і Палескі, в) каб ураз-жа былі пацягнуты да карнай адказнасьці ўсе пасрэднія і беспасрэднія віноўнікі арыштаў, катаваньня і пытак беларускіх сялян.

Варшава 2. III. 26.

(Больш 50 падпісоў уносячых прапазыцыі).

# Інтэрпэляцыя № 13

**паслоў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў і Міністра Справядлівасьці ў справе паноўных арыштаў сялян і беларускай інтэлігэнцыі на Беларускіх землях.**

Самаволя польскай дзяржаўнай паліцыі на Беларускіх землях усьцяж шалее. Вось зноў маем факты беспадстаўных арыштаў сярод беларускай інтэлігэнцыі і сялян на гэтак зв. „Усходніх Крэсах".

6 жніўня 1925 г. быў арыштаваны Мікалай Місун сын Лявона, 34 гадоў, безработны беларускі вучыцель, жыхар в. Місуны, Мядзёлскай гм. Дунілавіцкага пав. і пасаджаны ў перапоўненым Віленскім вастрозе на Лукішках.

Застаўшыяся ўдома малюткія дзеці і хворая старая маці 70 гадоў церпяць голад і нуду, будучы пазбаўлены адзінага карміцеля, які ўтрымліваў іх сваёй фізычнай працай. Прайшло ўжо пяць месяцаў, а справа беспадстаўнага арыштаваньня памянутага Місуна дацяпер судом не разгледжана.

З кастрычніка 1925 г. былі арыштаваны з няведамых прычын сяляне Лабар Цімох сын Дзяміяна, 29 гадоў і Добыш Рыгор сын Васіля, 27 г., жыхары вёскі Харошкі, Дварэцкай гм. Слонімскага пав. Пасьля шчыльнага вобыску ў хаце іх бацькоў, у часе якога абсалютна нічога ня было знойдзена, арыштаваныя, аднак, Бабар і Добыш былі адасланы ў палітычную паліцыю ў Баранавічах, зтуль у вастрог пры сьледчем аддзеле ў Слоніме і, урэшце, 17 марта 1925 г. былі пасаджаны ў вастрозе ў Горадні, дзе, як мы дасканальна ведаем з папярэдніх беларускіх палітычных працэсаў у Горадзенскім Акружным Судзе, трымаюць да суду па 2 гады і болей.

Падаючы гэтае да ведама п. Міністра Унутраных Спраў і п. Міністра Справядлівасьці, мы, ніжэйпадпісаныя дэпутаты Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, пытаем:

1) ці будзе паложаны ўрэшце канец той нячуванай самаволі польскай адміністрацыі на Беларускіх землях?

2) ці вышэй памянуты Місун Мікалай будзе зараз-жа зьвольнены, як нявінна пасаджаны, каб мог заапекавацца сваёю гаспадаркаю, сваімі дзяцьмі і маткаю, церпячымі голад?

3) ці склонны п. Міністар Справядлівасьці прысьпяшыць суд над пасаджанымі ў Горадні вышэй памянутымі Лабарам і Добышам?

Варшава 11 сьнежня 1925 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 18

**паслоў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да паноў Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў справе скатаваньня і давядзеньня да калецтва і частковае страты прытомнасьці палітычнага вязьня, селяніна Хаценчыцкае гм., Вялейскага пав., Янкі Дзіка ад 2 з паловаю гадоў знаходжачагася ў сьледчым вастрозе.**

Беларускія землі ад часу заняцьця іх польскаю ўладаю зьяўляюцца прадметам бяскарных гвалтаў з боку адміністрацыйнае ўлады; а ў вастрогах на гэт. зв. „Крэсах Усходніх" у працягу цэлых гадоў трымаюцца бяз суду ахвяры дэфэнзывы. Ілюстрацыяй гэтага можа служыць наступны факт:

28 жніўня 1923 г. быў арыштаваны селянін Хаценчыцкае гм., Вялейскага пав., Янка Піліпаў Дзік, з в. Дварэц, западозраны ў удзеле ў нападзе на мястэчка Ілію. Арыштаванага білі і катавалі на пастарунку дзяржаўнай паліцыі ў Хаценчыцах варварскім спосабамі у працягу ўсяе ночы, у рэзультаце чаго **ён застаўся на ўсё жыцьцё калекаю**, бо з прычыны нэрвовага страсеньня ўпаў у стан духовай дэмэнцыі, а таксама скалечыўся на ногі, бо да такой ступені яго білі ў падэшвы, што ў працягу ўсяго часу прабываньня ў вастрозе ($2^1/_2$ гады) падэшвы былі пакрыты гноючыміся ранамі. З Хаценчыцаў даставілі арыштаванага ў вастрог у павятовую Вялейку, а потым на Лукішкі ў Вільні, дзе знаходзіцца і да гэтае пары г. ё. ужо $2^1/_2$ гады, даслоўна **два з паловаю гады** і да гэтай пары ня вызначаны яму суд! Далейшае прабываньне ў вастрозе арыштаванага, (здароўе яго дужа падарвана варварскім сьледзтвам), пагражае яго жыцьцю.

Поўную беспадстаўнасьць арыштаваньня Янкі Дзіка выкрываюць паказаньні сьведкі Сымона Кулеша з в. Жардацьня, Хаценчыцкай гм., які забіраў ад арыштаванага дзерава, празначанае да транспарту і закупленае купцом Гурвічам у лесе п. Высоцкай. Напярэдадні нападу на м. Ілію позным вечарам бачыў арыштаванага сьведка Кулеш і забіраў у яго дзерава. Наступнага дня ранютка зноў прыехаў Кулеш у вёскі Дворац і забіраў у арыштаванага дзерава, зложанае ў яго ўдома і пры гэтым расказваў арыштаванаму і яго сям'е аб нападзе на Ілью. Трэба дадаць, што в. Дворац знаходзіцца ў шаснаццаці вярстох ад Ілы, так што паводле паказаньняў сьведкі Кулеша прысутнасьць Янкі Дзіка у м. Ілы ў часе нападу ёсьць фізычна немагчымай. Апрача гэтага сьведка Кулеша, бачылі арыштаванага ўдома позным вечарам напярэдадні нападу і ранютка наступнага дня лясьнікі Есель Сасонскі з в. Батурына і Аляксей Сьпіцыдовіч з в. Загорная.

Дзеля вышэйпаказанага стану рэчы падпісаныя пытаюцца п. п. Міністраў:

1) ці ведаюць яны аб гэтых фактах і

2) ці і што маняцца зрабіць, каб а) зволь-ніць нешчасьлівую ахвяру палітычных палачоў з застрогу і б) жорстка пакараць віноўных, даканаўшых над ім зьдзекаў і катаваньняў.

Варшава, 17 сьнежня 1925 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 26

**паслоў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да пана Міністра Унутраных Спраў у справе руйнуючых караў, накладаных адміністрацыйнай уладай на люднасьць, за пераступ абавязуючых правілаў аб руху ў прыгранічным поясе.**

Ня трэба многа гаварыць аб тым, якой вялікай нявыгодай было для мясцовай люднасьці правядзеньне польска-радавай граніцы. Гэта было раздзіраньнем жывога цела краю, разцяцьём яго артэрыяў. Разарвалі вёскі і вясковую землю, разлучылі найбліжэйшых родных. Мала гэтага: правілы аб руху ў прыгранічным поясе выкарыстоўваюцца адміністрацыйнай уладай, палохаючы людзей, ня лічачыся з тым, што ня раз зусім руйнуюць людзей. Накладаюць адміністрацыйныя кары, на некалькісот злотых, не гаворачы ўжо аб месяцах вастрогу за найменшы пераступ.

Вось прыклад: Староста Вялейскага пав. пакараў Мікалая Дзіка, жыхара гэтага-ж пав., арыштам на працяг 50 дзён і грашыма на 100 зл. за няпраўнае прабываньне ў надгранічным поясе. Мікалай Дзік хадзіў да сястры, пражываючай пры граніцы. Пры вобыску нічога карыгоднага ў абвінавачанага не знайшлі. Дэлегат Ураду на м. Вільно зацьвярджае кару Вялейскага старосты бяз права скаргі дя вышэшай інстанцыі.

Гэта выпадак найзвычайнейшы, адзін з тысячы іншых ня раз яшчэ болей няслушных, крыўдных і руйнуючых люднасьць.

Прыгранічная люднасьць стогне і наракае з заўсёдашнім пытаньнем на вуснах — калі ўрэшце гэтая граніца перастане быць пракляцьцем? Ці ў канцы кацоў Польскі Урад ня хоча і ці ня можа ўвайсьці з радавым Урадам у паразуменьне, каб рух прыгранічнай люднасьці адбываўся з пропускамі, як гэта практыкуецца з іншымі дзяржавамі? Што гэтаму стаіць на перашкодзе, люднасьць ня можа зразумець тады, як гэтак многа гаворыцца і пішацца аб папраўленьні адносінаў на радавай граніцы.

Дзеля вышэйшага падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці ведама яму, што адміністрацыйная ўлада накладае вельмі высокія кары за пераступ правілаў аб руху ў прыгранічным поясе (§ 6 расп. Рады Абароны Дзяржавы з 20/VII 1920 г. Дз. Уст. Р. П. № 64 поз. 426)?

2) Ці маніцца Міністар Унутраных Спраў у паразуменьні з Міністрам Заграніічных Спраў зрабіць адпаведныя шагі, каб змагчыміць прыгранічнай люднасьці рух праз граніцу з пропускамі?

Варшава 28. I. 26 г.

**Інтэрпэлянты.**

# Інтэрпэляцыя № 28

**дэпутата Бр. Тарашкевіча і таварышоў да пана Міністра Справядлівасьці ў справе вязьня нейкага Арсена Арэхава і пратрыманьня яго ў вастрозе без даручэньня акту абвінавачаньня ад 26 лістапада 1922 г. (!) да сёньняшнага дня.**

Нейкі Арсен Арэхаў, знаходзячыся ў Віленскім вастрозе на Лукішках, дня 8. XI. 1925 г. напісаў зтуль да мяне пісьмо наступнага зьместу:

„Вельмі паважаны Пан Тарашкевіч! Выбачце, каліласка, што Вас турбую, але здарэньне, што сталася са мной змушае мяне Вас патурбаваць. Справа гэткая: арыштавалі мяне 28 лістапада 1922 г. і да гэтага часу ня ведаю, за што сяджу і ці доўга яшчэ буду сядзець. Справа мая знаходзіцца ў сьледаваццеля пры Акружным Судзе. Маю надзею на Вашу помач і напярод дзякую. Арсен Арэхаў". На пісьме вастрожны штэмпэль „скантралявана".

Гэтая кароценькая, ясна гаворачая картачка не патрабуе паясьненяў. Аднак-жа, навет пры нашых адносінах трыманьне кагосьці ў вастрозе болей трох гадоў — гэта капельку... задоўга.

Дзеля гэтага падпісаныя пытаюць пана Міністра Справядлівасьці:

1) Ці ведае ён аб апісаным факце?

2) Ці не паведаміць п. Міністар інтэрпэлянтаў аб прычыне арыштаваньня Арсена Арэхава і аб прычынах, дзякуючы якім ён гэтак доўга сядзіць у вастрозе без даручэньня акту абвінавачаньня?

3) Ці маніцца п. Міністар пакараць віноўнікаў гэтага нячуванага бяспраўя?

Варшава 3. II. 26 г.

# Інтэрпэляцыя № 31

**паслоў Беларускай Сялянска Работніцкай Грамады да п. п. Міністраў Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў справе сфабрыкаваньня дэфэнзывай вялікага палітычнага працэсу ў Горадні.**

Палітыка буржуазна-капіталістычных урадаў, абапёртая на эксплёатацыі сялянска-работніцкай клясы, на зваленьні на яе ўсіх цяжараў утрыманьня дзяржавы, на паліцэйскай сыстэме — выклікае магутны спраціў з боку сялянска-работніцкай клясы. У цяперашняй хвіліне сытуацыя загастраецца яшчэ больш. Цяперашні Урад, урад коаліцыі партыяп гэтак званых работнічых з правіцаю, стараецца зьліквідаваць цяперашні фінансава-гаспадарчы крызіс (які зьяўляецца агідным вынікам капіталістычнай палітыкі) шляхам буржуазнай санацыі. Буржуазная санацыя абцяжвае толькі работніцкую клясу, ці, іначай, накладае яшчэ дадатковыя цяжары на тых, якія і так ужо зьяўляюцца ахвярамі гэтага капіталістычнага крызісу. Незадаволеньне і спраціў шырокіх працоўных масаў вёсак і гарадоў стрымоўвае Урад паліцэйскім тэрорам. Дэфэнзыва ў гэтым кірунку мае неабмяжованыя паўнамоцтвы і забясьпечаную бяскарнасьць. Беларуская люднасьць адчувае гэты тэрор у большай яшчэ ступені, як працоўныя клясы Каранной Польшчы. Нацыянальны ўціск, стасаваны ўрадам да беларускай людпасьці, паглыбляе яшчэ паліцэйскі тэрор на Беларусі.

У рэзультаце гэтага множацца вялікія палітычныя працэсы, пабудаваныя на правакацыі.

Ілюстрацыйным прыкладам гэтага зьяўляецца нядаўна закончаны ў Горадні працэс проці 33 жыхараў м. Крынак.

На судзе выясьнілася, што ўвесь акт абвінавачваньня пабудаваны быў на беспадстаўным правакатарскім даносе канфідэнта палітычнай паліцыі. На судзе выясьнілася, што галоўны абвініцель паліцэйскі агэнт Коппель, выкарыстоўваў свае становішча, вымагаючы грошы і задаваляючы свае эротычныя справы, што пагражаў сваім ахвярам, калі адмаўлялі,— паліцэйскім даносам і што дзеяў ён у паразуменьні з іншымі функцыянэрамі паліцыі. Прыгнятаючае сьвятло кідаюць на гэтыя адносіны паказаньні сьведкі Кваціінскага. А іменна паказаў ён, што напярэдадні суду камандант паліцыі ў Крынках—Віттэр (які сам быў сьведкаю на судзе) прасіў сьведку Здановіча, „каб не гаварыў праўды на судзе". Паўторна пытаныя сьведкі паліцэйскі Здановіч і функцыянэр палітычнай паліцыі Ліс пацьвердзілі паказаньні Квяцінскага.

Суд быў змушаны апраўдаць усіх абвінавачаных у ліку 33.

Прадметам нашай інтэрпэляцыі не зьяўляецца аднак справа суду. Сам факт, што сфабрыкавалі ў дэфэнзыве вялікі палітычны працэс і што абвінавачаныя прасядзелі лічыць тры гады ў вастрозе—ілюструе даволі добра пануючыя ў нас адносіны. Агідны гэты шантаж мае свае крыніцы ў тым, што паліцыя мае неабмяжаваныя паўнамоцтвы і запэўненую бяскарнасьць, калі трэба прыдушыць клясовую сьвядомасьць працоўных масаў.

Падпісаныя пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці і які загад мае замер выдаць, каб падобныя выпадкі не маглі мець месца на прышласьць?

2) Ці віноўныя ў шантажы і вымушваньні будуць пацягнуты да карнай адказнасьці?

і п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці ўважае за слушнае, каб сьледзтва, абапёртае на выдумках, шантажу і правакацыі паліцыі цянулася праз тры гады?

Варшава, 25 лютага 1926 г.

# Прапазыцыя № 34

**дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і таварышоў ў справе бяспраўнага арыштаваньня і катаваньня трох беларускіх сялян у вёсцы Какошыцы.**

Тэрор адміністрацыйна-паліцэйскай улады, які стасуецца да беларускай людпасьці набірае што-раз то шырэйшых і дзічэйшых разьмераў. Некалькіразовае нашае выступленьне ў гэтай справе, як шляхам многіх інтэрпэляцыяў, так і з Соймавай трыбуны, ня прыносяць ніякіх рэзультатаў. Бяскарная паліцыя стасуе і надалей да беларускай людпасьці што-раз то большыя гвалты і катаваньні. Доказам гэтаго служаць весткі, што даходзяць да нас з розных бакоў і кутком Заходняй Беларусі.

Вось, што нам пішуць:

У в. Какошыцы Слонімскага пав. быў вывешаны 21 студзеня чырвоны сьцяг. Зараз жа прыбыў да вёскі камандант пастарунку дзяржаўнай паліцыі з Езернік, Мінкевіч, які арыштаваў трох сялян з в. Какошыцы, Лявоня Дабрыяна, Сымона Дабрыяна і Майсея Гараську. У арыштаваных загадалі рабіць вобыск, які ня даў ніякіх „абцяжваючых" рэзультатаў. Знайшлі толькі некалькі эгзэмпляраў выходзячай у Вільні легальнай „Беларускай Нівы" і некалькі беларускіх кніжак, таксама легальна выданых у Вільні. Міма гэтага перавязьлі арыштаваных на паліцэйскі пастарунак у Езерніку, дзе пратрымалі іх тры дні; у працягу гэтага часу білі іх і катавалі нялюдзкім спосабам. Білі зьвязаных поводле ўжо прынятай „сыстэмы", якую неадначасна апісывалі мы ў нашых інтэрпэляцыях. А іменна: зьвязаныя рукі закладалі ім за калені, і праз згібы кален і рук працягвалі тоўсты кій. Потым валаклі іх за валасы на сходах, б'ючы галавою па ступеньках сходаў. Пасьля трох дзён гэткіх катаваньняў перавязьлі іх у Слонім, дзе катаваных трымаюць па сягоньняшні дзень. Аб ступені катаваньня сьведчыць факт, што слонімская паліцыя ўлівае напр., арыштаваным сялянам ваду з оцтам у нос, якая трапляе ў лёгкія і выклікае крываплюцьцё.

Дзеля гэтага падпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм ухваліць:

Сойм кліча Урад:

1) Выдаць адпаведныя загады, каб ураз-жа зьвольніць гэтыя трох арыштаваных сялян з в. Какошыцы.

2) Стварыць асобную Камісію для расьледаваньня вышэй апісаных паліцэйскіх праступкаў.

3) Зволніць са службы віноўных катаваньняў беларускіх сялян і прыцягнуць віноўных да карнай адпавядзяльнасьці.

Варшава 26. II. 26 г.

Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады.

w Wilnie. im. Wróblewskich

Друкарня Н. Левін і Сын Вільня, Нямецкая вул. 22.